АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# «МЫ ПАВІННЫ ГЛЯДЗЕЦЬ НА СВЕТ УЛАСНЫМІ ВАЧАМІ...»

**З Галоўным архіўным упраўленнем Беларусі «Звязду» звязваюць даўнія і плённыя адносіны. На нашых старонках не з'явіліся б многія цікавыя матэрыялы на гістарычную і іншыя тэмы без гэтага супрацоўніцтва. Таму мы з цікавасцю ўспрынялі выдадзеную днямі пастанову ўрада Рэспублікі «Аб пераўтварэнні Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры СМ Беларусі ў Камітэт па архівах і справаводству пры Савеце Міністраў РБ». Што новага з'явіцца ў рабоце архіўных органаў, ці не стане гэтая пастанова толькі падставай для чарговага змянення шыльды? На пытанні карэспандэнта «Звязды» адказвае старшыня Галоўархіва Аляксандр МІХАЛЬЧАНКА.**

— Гэтае пераўтварэнне для нас — подых жыцця, — лічыць Аляксандр Мікалаевіч. — Мы рады, што прапановы беларускіх архівістаў, якія прагучалі даўно, пачуты ўрадам і прынята такое важнае рашэнне. За апошнія гады ў нашай рабоце ўзнікла шмат праблем, якія патрабавалі неадкладнага ўмяшання вышэйшых кіруючых структур. Спробы нашага грамадства ўвайсці ў рынак выклікалі многа негатыўных з'яў. Шматлікія камерцыйныя прадпрыемствы часта не падпарадкоўваюцца дзяржаўным правілам вядзення дакументацыі. Знішчаюцца або нават і не заводзіліся асабістыя справы працуючых, ведамасці, анкеты. Для недасведчаных гэта, здавалася б, дробязь. Але ж канкрэтныя, жывыя людзі, якія сумленна там працуюць, нярэдка нават не могуць атрымаць элементарных звестак аб сваім стажы, аб размеры заработнай платы. Без гэтага немагчыма будзе атрымаць пенсію. Ёсць яшчэ шэраг момантаў, якія выклікалі з'яўленне гэтай пастановы.

Вы ўжо ведаеце, што нам перададзены архівы КПСС — КПБ. Гэта вялікая колькасць дакументаў, сабраная за многія дзесяцігоддзі, доступ да якіх для навукоўцаў быў няпросты. Адбылося не механічнае расшырэнне архіваў, а, перш за ўсё, іх якасны рост. Мы маем цяпер сапраўды каштоўную інфармацыю па нашай нядаўняй гісторыі. Многія даты, падзеі патрабуюць сур'ёзнага перагляду, удакладнення, так што вучоным давядзецца добра пашчыраваць, выпрацоўваючы свой, беларускі погляд на нашу айчынную гісторыю, не чакаючы і не зважаючы на тое, а што скажа Масква ці Варшава. Мы ж маем уласныя вочы. Вось гэта яшчэ адна прычына.

Чым яшчэ заняты архівісты? Наша самастойнасць, суверэнітэт патрабуюць стварэння ўласнай узнагародавай сістэмы. Ні ў адной краіне ордэны, медалі штучна не ўстанаўліваліся. Ёсць пэўныя традыцыі, культура, геральдычныя законы, нарэшце, якімі і трэба кіравацца ў такой важнай справе. Вядома, што ўсе патрэбныя матэрыялы нам давядзецца шукаць у архівах. Гэтым мы і заняты зараз. Мы расшукаем таксама людзей, якія захапляюцца геральдыкай, а гэта нялёгка, бо прафесіянальна ў Беларусі геральдычнымі даследаваннямі займаюцца адзінкі...

**— Сапраўды, стварэнне ўзнагарод — рэч сур'ёзная і няпростая. Распрацоўка ўласнай сістэмы ў нас вядзецца ўжо каля года. Вельмі хацелася б, каб мы не выглядалі тут дылетантамі. Для кожнага беларуса, напэўна, неабыякава, якая ўзнагарода будзе вышэйшай у краіне — безаблічны «Герой рэспублікі» ці, скажам, «Крыж Ефрасінні Полацкай»...**

— Так, я згодзен. І хачу дадаць, што акрамя агульнадзяржаўных узнагарод мы думаем і пра стварэнне прафесіянальных. Гэта таксама цікава. Тут яшчэ шмат пытанняў, але яны ўсё больш настойліва стукаюцца ў дзверы — пара.

Пара адчыняць не толькі гэтыя дзверы. Мы былі б рады, ды не ўсё ад нас залежыць. Слабая тэхнічная аснашчанасць — сур'ёзная перашкода ў рабоце. І сёння архівісты працуюць, як і 100—150 гадоў назад. Мала што змянілася — запыленыя стэлажы ў паўпадвальных памяшканнях, картатэкі. Толькі параўнальна нядаўна ў нас з'явіліся дзве ЭВМ, куды мы «заганяем» звесткі па рэпрэсіраваных. Ужо зроблена база на 30 тысяч, але ж іх было звыш паўмільёна.

Па іншых пытаннях таксама шмат праблем. Электравылічальная тэхніка ў архіўнай справе проста неабходная. Такі вось прыклад: у «шырокі» свет трапляе ў лепшым выпадку 1,5—2 працэнты ад таго, што ў нас захоўваецца. У гэтым плане мы не павінны выглядаць заштатнай правінцыяй, а працаваць прафесіянальна. Тым больш, што звесткі, якія прадстаўляюць архівісты, — не проста інфармацыя дзеля інфармацыі. Яны прымяняюцца на практыцы ў розных галінах гаспадаркі: мінскія метрабудаўцы пры пракладцы ліній метрапалітэна звярталіся да нас і вывучалі тэхнічную дакументацыю пабудоў, помнікаў, якія знаходзяцца над лініяй, інакш многія з іх даўно ўжо разваліліся б.

**— Даволі нечаканы паварот набыла наша гутарка. Пагаварылі пра гісторыю, дайшлі да эканомікі. Але і ў вырашэнні сацыяльных праблем грамадства, відаць, таксама немалая заслуга архівістаў?**

— Са сваімі праблемамі да нас звяртаецца вельмі многа людзей, напрыклад, па праблеме выхаду на пенсію. А вось апошняя хваля зваротаў — ад людзей, якія насільна былі вывезены ў Нямеччыну падчас другой сусветнай вайны і працавалі там. Мы знаходзім адпаведныя звесткі — людзі ж маюць права на кампенсацыю. Тым больш, што канцлер Коль паабяцаў выдзеліць на гэтыя мэты (для выплаты пенсій грамадзянам Расіі, Беларусі і Украіны) 1 млрд. марак. У гады мінулай вайны да 400 тысяч беларусаў было вывезена ў Германію. Дапамагае нам у гэтай справе КДБ, прадастаўляючы неабходную інфармацыю, мы маем нават дамоўленасць аб перадачы ўсіх гэтых звестак з іх ведамаснага архіва ў дзяржаўны.

**— Як пашыраюцца міжнародныя сувязі беларускіх архівістаў?**

— Галоўархівам нямала было зроблена, каб забяспечыць інфармацыйную прастору для нашых даследчыкаў. Мы маем ужо дагаворы з Літвой, Латвіяй, Расіяй, Украінай і Польшчай — нашымі суседзямі. Гэта дае нам магчымасць выкарыстоўваць дакументы, якія датычацца беларускай гісторыі і якія па розных прычынах знаходзяцца ў гэтых краінах. Зараз працуем над дагаворам з Германіяй. Нашы краіны маюць вельмі даўнія і цікавыя ўзаемадачыненні. Возьмем хоць бы ўзнікненне Беларускай Народнай Рэспублікі. У нямецкіх архівах захоўваецца камплект газеты 11-й германскай арміі, якая акупіравала ў 1918 годзе Беларусь. У гэтым выданні ёсць цікавыя звесткі пра ўтварэнне БНР, адносіны паміж яе ўрадам і акупацыйнай адміністрацыяй, шмат іншага, невядомага нашым даследчыкам. Па-другое, трэба яшчэ высветліць лёс многіх падпольшчыкаў, партызан, людзей, якія трапілі ў канцлагеры. Невядома, дзе абрываліся іх жыцці, дзе іх магілы, на чыёй зямлі.

**— Аляксандр Мікалаевіч, такое важнае для ўсіх нас пытанне: як ідзе вяртанне на радзіму дакументаў, вывезеных з Беларусі?**

— Гэта не толькі важнае, але і балючае для нас пытанне. Ім мы займаемся не першы год. Адна справа, што мы проста не ведаем, дзе знаходзяцца многія нашы архіўныя матэрыялы, якія вывозіліся з Беларусі перад варожымі нашэсцямі, пачынаючы з 1812 года. І іншая — што, нават маючы гэтыя звесткі, усё роўна цяжка дабіцца іх вяртання.

Гісторыя Беларусі цесна звязана з гісторыяй Літвы, Расіі, Польшчы... Многія дакументы ў аднолькавай ступені належаць як нам, так і нашым суседзям, якія таксама не хочуць з імі развітвацца. Ёсць у рэшце рэшт міжнародныя нормы — іх неабходна прытрымлівацца. Акрамя таго, гэтая справа патрабуе вялікіх грошай — і не «драўляных» рублёў, а цвёрдай валюты. Адзін кадр мікрафотакопіі дакумента па сусветных расцэнках каштуе паўдолара. «Звязда» часта піша пра валютныя справы, таму вам не цяжка падлічыць, колькі каштуе скапіраваць нават адну старонку. Тым не менш, шукаем выйсце. Актыўна супрацоўнічаем пры гэтым са Скарынаўскім цэнтрам, які ўзначальвае Адам Мальдзіс, з Беларускім фондам культуры — ёсць у іх так званая Камісія вяртання, — так што агульнымі намаганнямі нечага даб'ёмся. Цяпер у асноўным мы займаемся пошукам нашых архіваў, усіх звестак пра іх.

**— А як цяпер ідзе працэс перадачы Камітэтам дзяржбяспекі сваіх архіваў у дзяржаўны?**

— Я крыху закранаў гэтую тэму, расказваючы пра тыя звесткі, якія мы атрымліваем ад КДБ па справах, вывезеных у Германію. У кіраўніцтва органаў ёсць жаданне працаваць з намі. КДБ перадасць нам усе матэрыялы, якія маюць чыста гістарычную накіраванасць. Гэта будзе зроблена ўжо ў наступным годзе. Можна было б зрабіць і раней, але, паўтару, гэта не механічны акт перадачы тоны паперы, а дакументы, кожны з якіх павінен знайсці сваё месца ў нашай сістэме, каб яго ў любы момант можна было лёгка знайсці і працаваць з ім.

Мы запрашаем ў свае архівы ўсіх, каго цікавіць яго паходжанне, яго род. Калі ласка, прыходзьце, вам дапамогуць.

**Гутарыў Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

ПРАБЛЕМЫ МЯСЦОВАЙ УЛАДЫ

# Праект—але не той

**Нядаўна ў «Звяздзе» была надрукавана інфармацыя аб II Рэспубліканскай канферэнцыі дэпутатаў мясцовых Саветаў па праблемах рэформы сістэмы мясцовых органаў кіравання. Канферэнцыя прапанавала свой варыянт раздзела «Мясцовае самакіраванне» ў праект новай Канстытуцыі. Чаму менавіта цалкам іншы? Перш за ўсё ў праекце Вярхоўнага Савета па-ранейшаму захоўваецца прынцып каманднa-адміністрацыйнай сістэмы: несамастойнасць у вызначэнні бюджэту, двайная падсправаздачнасць выканаўчых органаў, ды і наогул неканкрэтнасць паняццяў самакіравання і дзяржаўнага кіравання.**

Раздзел «Мясцовае самакіраванне» быў падрыхтаваны членамі Беларускага рэспубліканскага фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ, які, дарэчы, і арганізаваў саму канферэнцыю. У выніку абмеркавання быў прыняты раздзел «Мясцовае самакіраванне», які, на нашу думку, строга грунтуецца на прынцыпах «Еўрапейскай хартыі тэрытарыяльнага самакіравання». Усе артыкулы гэтага раздзела вынікаюць з прапаноў І-й канферэнцыі дэпутатаў мясцовых Саветаў. Гэта перш за ўсё дэцэнтралізацыя дзяржаўнай улады, размежаванне кампетэнцыі дзяржаўных і мясцовых улад. Улічылі і прынцып поўнай самастойнасці (у межах сваіх паўнамоцтваў) мясцовых Саветаў, у прыватнасці, фарміраванне бюджэту па прынцыпу знізу—уверх. Закладзены прынцыпы падзелу кампетэнцыі паміж рознымі органамі мясцовага самакіравання, вырашэння спрэчных пытанняў з дапамогай Адміністрацыйнага суда (суда над органамі ўлады).

Такім чынам, прапанаваны прынцыпы муніцыпалізацыі савецкай улады, але гэта—не механічнае капіраванне заходняй сістэмы. Згодна з выкладзенымі артыкуламі раздзела «Мясцовае самакіраванне», трэба падрыхтаваць шэраг законаў, якія тлумачылі б канкрэтны механізм мясцовага самакіравання, асабліва што датычыцца сістэмы і прынцыпаў падаткаабкладання. Самастойная крыніца фінансавання — гарантыя любой улады.

Удзельнікі канферэнцыі пайшлі далей і разгледзелі канцэпцыю рэформ сістэмы мясцовай улады, каб пасля прыняцця Канстытуцыі можна было адразу рухацца ў канкрэтным напрамку. Асноўнай ідэяй канцэпцыі з'яўляецца паступовая, паслядоўная дэцэнтралізацыя мясцовага кіравання і пераход да рэальнага самакіравання, ад палітыка-ідэалагічнай савецкай рэспублікі да прававой суверэннай дзяржавы, якая існуе ва ўмовах рыначных адносін. Па сутнасці, рэформа—гэта ліквідацыя манапалізму дзяржавы ў палітычнай галіне (выбары) і адзінай дзяржаўнай улады. Гэты працэс можа адбыцца толькі ў выніку поўнай перадачы мясцовых спраў у рукі органаў мясцовага самакіравання і стварэння магчымасці пераходу грамадскіх спраў у кампетэнцыю недзяржаўных органаў. Манаполія матэрыяльная можа быць парушана камуналізацыяй маёмасці і яе ліквідацыяй у галіне фінансаў.

Усё гэта не будзе эфектыўным без змены існуючага тэрытарыяльнага падзелу: толькі ўвядзенне двухузроўневай сістэмы падзелу рэспублікі на паветы і воласці дасць магчымасць запрацаваць усёй сістэме дэмакратычнай улады.

Канцэпцыя прадугледжвае тры этапы: падрыхтоўчы, пераходны і рэалізацыя рэформ.

Перш за ўсё—выбранне вышэйшага органа ўлады — Сойма. Толькі пры цэласнай канцэпцыі развіцця суверэннай незалежнай дзяржавы, забяспечанай прафесіянальна падрыхтаванымі законамі, можа адбыцца рэформа мясцовай улады.

Хацелася б падкрэсліць яшчэ вось што. У канферэнцыі ўдзельнічалі, як было відаць па распаўсюджаных анкетах, народныя дэпутаты розных поглядаў на пераўладкаванне нашага жыцця. Але, нягледзячы на шэраг рознагалоссяў, усе пытанні па рэформе сістэмы мясцовай улады былі прыняты аднагалосна.

Дарэчы, у «Звяздзе» за 6.11.92 надрукаваны артыкул «Маленькі барак у цэнтры вялікай палітыкі». На маю думку, вось гэты маленькі, мясцовы факт, закрануты вялікай палітыкай, высвеціў усе праблемы мясцовай улады. Тут усё: карупцыя і недасканаласць сістэмы ўлады—з аднаго боку, няшчасце і чароўнасць — з другога. Я цалкам згодзен з аўтарам: «...дэмакратычныя імкненні Старшыні Вярхоўнага Савета рэзка разыходзяцца з наменклатурнай практыкай...». Таму выйсцем з гэтага становішча можа быць толькі змяненне гэтай наменклатурнай сістэмы ўлады. Інакш — зноў жа мае рацыю С. Шаўцоў: «...крызіс улады, які мы назіраем, можа скончыцца нечым дрэнным». Толькі парваўшы гэтае наменклатурнае павуцінне, мы можам забяспечыць сабе жыццё, пазбегнуць пагрозы марuднага вымірання. А на сёння ўжо ёсць і людзі, і арганізацыі, і ідэі, здольныя пачаць рэарганізацыю сістэмы мясцовай улады.

**Валерый ГРЫЦУК,**
**адказны сакратар Беларускага рэспубліканскага фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ.**

СПАДЧЫНА

**Цудоўны этнаграфічны музей «Спадчына» створаны ў палескай глыбінцы—у сярэдняй школе вёскі Прыбалавічы Лельчыцкага раёна. Невялікае яго памяшканне, але колькі ўнікальных экспанатаў сабрана тут! Сталярны і кавальскі інструмент, прыстасаванні для прадзення і ткацтва, гліняны посуд, старадаўні абутак і мноства іншых прадметаў сялянскага побыту. Упрыгажэнне экспазіцыі—маляўнічыя народныя касцюмы і ручнікі, створаныя рукамі мясцовых майстрых.**

**Загадчыца музея—выкладчык беларускай мовы і літаратуры Любоў Пятроўна Акуліч—расказала, што ўсе экспанаты карпатліва збіраліся вучнямі і настаўнікамі.**

**Музей стаў вялікай дапамогай у вывучэнні гісторыі роднай зямлі, традыцый і звычаяў Палесся.**

**НА ЗДЫМКУ: вучні сёмага класа Галіна Акуліч і Марына Валынец ля музейнай экспазіцыі.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**
**БЕЛІНФАРМ.**

У САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ

# ДАЛІ МАГАЗІНУ ЛІЦЭНЗІЮ

Урад рэспублікі прыняў пастанову «Аб ліцэнзаванні і асноўных правілах вядзення рознічнага гандлю і гандлёва-вытворчай дзейнасці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь», якая ўводзіцца ў дзеянне з 1 лістапада і распаўсюджваецца на ўсе суб'екты гаспадарання, незалежна ад ведамаснай прыналежнасці і форм уласнасці. Міністэрству гандлю гэты дакумент прадаставіў права ўносіць пры неабходнасці змяненні і дапаўненні ў правілы гандлю і гандлёва-вытворчай дзейнасці. Да пачатку наступнага года выканкомы мясцовых Саветаў павінны забяспечыць выдачу такіх ліцэнзій, а міністэрствы юстыцыі і ўнутраных спраў — унесці ў дзеючыя заканадаўчыя акты неабходныя папраўкі, якія прадугледжвалі б узмацненне адказнасці гандлёвых работнікаў за парушэнне ўстаноўленых правіл і норм.

Перш за ўсё аб ліцэнзаванні і яго сэнсе. Прадугледжана, што выдаваць дазвол на той або іншы від дзейнасці магазінам, універсамам, кіёскам, сталовым і г. д. будуць выканкомы мясцовых Саветаў, у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам і іншымі рэгламентуючымі дакументамі. Для атрымання ліцэнзіі суб'ект (дырэктар, уладальнік гандлёвага або гандлёва-вытворчага прадпрыемства) павінен прадаставіць уладам копіі ўстаноўчых дакументаў, заключэнне органаў саннагляду аб прыгоднасці або адпаведнасці магазіна, кафэ і г. д. выбранай спецыялізацыі, медыцынскую даведку аб стане здароўя (у тым выпадку, калі ён будзе мець справу з харчовымі таварамі, кулінарыяй, дагавор на правядзенне лабараторных даследаванняў якасці паступаючай сыравіны і выробленай прадукцыі, дакумент, што пацвярджае ўнясенне платы за ліцэнзію.

Улады маюць права і адмовіць у выдачы такога дазволу, а таксама пазбавіць яго уладальніка гандлёвай «кропкі», калі прадпрыемства наносіць шкоду экалогіі або не мае неабходных санітарна-гігіенічных умоў для захоўвання, перапрацоўкі і рэалізацыі тых або іншых груп тавараў. Не выдаецца ён і пры адсутнасці дагавора на лабараторныя даследаванні па якасці, а таксама ў тых выпадках, калі грамадзяніну забаранілі займацца гандлёвай дзейнасцю судовыя органы, калі яго здароўе не адпавядае ўстаноўленым патрабаванням. А вось магазіны, якія гандлююць дзіцячымі вырабамі і іншымі сацыяльна значнымі таварамі, могуць быць вызвалены ад платы за ліцэнзію.

«Звод» даволі падрабязных асноўных правіл вядзення рознічнага гандлю і гандлёва-вытворчай дзейнасці, што прыкладаюцца да пастановы, у многім паўтарае ўжо вядомыя ісціны, якія, на жаль, далёка не заўсёды выконваюцца. Ён нацэлены на павышэнне якасці і культурнага ўзроўню гандлёвага абслугоўвання, прадугледжвае абарону правоў спажыўца, забараняе многія віды «самадзейнасці» гандлёвых работнікаў пры арганізацыі гандлю са зручнасцямі для сябе, а не для кліента. Выкананне гэтых правіл, падкрэсліваецца ў дакуменце, абавязковае для ўсіх прадпрыемстваў, незалежна ад формы ўласнасці і ведамаснай падпарадкаванасці, а веданне іх — абавязковая ўмова для атрымання ліцэнзій. Акрамя таго, правілы дэталізуюць многія моманты ў адносінах пастаўшчыкоў з прадаўцамі, а апошніх — са спажыўцамі. Напрыклад, яны прадпісваюць магазінам, сталовым і іншым прадпрыемствам галіны прадастаўляць пакупніку максімум інфармацыі аб рэжыме і спецыфіцы сваёй работы, наяўным асартыменце тавараў, які на прылаўку або ў меню павінен быць такім жа, як і ў «падсобцы». Плодаагароднінная прадукцыя, прынятая да рэалізацыі дзяржгандлем і спажыўкааперацыяй, павінна паступаць у продаж на працягу дня, прадукты — двух, а прамысловыя тавары — максімум трох дзён. Прадпісваецца таксама вельмі строга прытрымлівацца прынцыпу тавaрнага суседства на складах і прылаўках, праводзіць неабходную перадгандлёвую падрыхтоўку тавараў. Яны павінны быць чыстымі, прывабнымі, зручна расфасаванымі, адпрасаванымі і г. д. Ну а калі пакупнік усё ж набыў няякасны або ненадзейны выраб, не будучы папярэджаным аб гэтым, то прадпрыемства абавязана або бязвыплатна ліквідаваць у ім дэфект, або аддаць грошы, ці замяніць пакупку на больш якасную. Прычым, такі абмен ва ўсіх выпадках абараняе перш за ўсё інтарэсы пакупнікоў. Забараняецца і продаж тавараў з «нагрузкай».

Кантроль за выкананнем асноўных правіл вядзення рознічнага гандлю і гандлёва-вытворчай дзейнасці на тэрыторыі рэспублікі ўрад усклаў на дзяржаўныя кантралюючыя органы і Міністэрства гандлю.

**БЕЛІНФАРМ.**

# З МАФІЯЙ НІЧОГА НЕ СТАНЕЦЦА, КАЛІ ЯНА «КАВАЛАК» АДВАЛІЦЬ...

## Фіяска «чырвоных фуражак» на аўтастрадзе Мінск—Вільнюс

Далёка не з разраду мегаполісаў горад Смаргонь, але ён жыве, жыве паўнакроўна, а ў шэрагу выпадкаў гучнасцю і маштабнасцю спраў можа паспрачацца з любым, хто кіне яму выклік.

Смаргонскія праваахоўныя органы ў гэтым годзе ліхаманіць ужо трэці раз. Прычым кожная наступная справа ясна давала зразумець: усё, што было раней — так, «пшык» у параўнанні з тым, што яшчэ будзе. Ад справы да справы «выканаўцы» набывалі кваліфікацыю, а метады іх работы станавіліся ўсё больш вытанчанымі.

Не паспела пакрыцца архіўным пылам нарабіўшая шуму ў радах міліцыі справа аб перавышэнні ўлады іх калегам, як падаспела жорсткая расправа над непаўналетняй К., учыненая экс-следчым смаргонскага РАУС у «садружнасці» са сваім гомельскім сябрам — таксама міліцыянерам (для таго, каб заблытаць след у пошуку прапаўшай К., вурдалакі ў чалавечым абліччы расчлянілі труп дзяўчыны і закапалі яго часткі ў розных месцах за сотні кіламетраў ад месца трагедыі). Злачынства цынічнае і вынік прыгавору суда адпаведны.

Апошні выпадак, хоць і абышоўся без ахвяр, тым не менш па беспрэцэдэнтнасці абяцае заняць віднае месца ў калекцыі крымінальных навінак праваахоўных органаў. Менавіта пра гэты выпадак, а дакладней пра прыгоды трох сяброў у чырвоных фуражках на начной аўтастрадзе Мінск — Вільнюс і нечаканым (для іх) фіяска, і пойдзе гаворка ніжэй.

Вядома, ні першы, ні другі, ні шэраг іншых больш дробных эпізодаў не робяць гонару служыцелям закона. Мала таго, што надоўга аказалася заплямленай уся мясцовая міліцыя, дык яшчэ на кожным кроку адчуваецца адваротная рэакцыя радавых грамадзян: маўляў, што гэта за міліцыя, у якой сабраліся адны забойцы ды хабарнікі. Так, гучыць жорстка і не заўсёды па адрасу, але ж, сапраўды, шокавы стан ад такіх навін забяспечаны.

**Ідэйны натхняльнік, кіраўнік і «хросны бацька» праекта «Чырвоныя фуражкі на начной аўтастрадзе» — старшы лейтэнант міліцыі Касевіч Валяр'ян Браніслававіч, ураджэнец Смаргонскага раёна, 29 гадоў, жанаты, мае 2 дзяцей. З 1985 па 1987 год вучыўся ў Мінскай школе міліцыі імя Фрунзе. Пасля заканчэння вярнуўся ў родныя мясціны, дзе і быў назначаны на пасаду ўчастковага інспектара калгаса імя Неўскага.**

**Наступны па рэйцінгу — старшына міліцыі Клакевіч Анатоль Мікалаевіч. Нягледзячы на маладосць (нарадзіўся ў 1967 годзе), даволі хутка «ўехаў» у курс справы (нават у прамым сэнсе), дзякуючы чаму стаў правай рукой Касевіча. Жанаты. У органах міліцыі з 1988 года. Выхадзец з суседняга, Валожынскага раёна. Інспектар дарожна-паставой службы. У абавязкі ўваходзіла абслугоўванне зоны, што мяжуе з аўтастрадай Мінск — Вільнюс (праўда, мелася на ўвазе абслугоўванне, палярна процілеглае таму, якое праводзіў Клакевіч).**

**Яшчэ адна «аблудная авечка» — старшы лейтэнант Аляшкевіч Іван Зянонавіч, нарадзіўся ў Ашмянскім раёне 33 гады назад, мае 3 дзяцей. З 1983 года працаваў у аддзеле ўнутраных спраў у Вільнюсе, дарэчы, на вельмі цікавым аб'екце.**

**Гучыць так: міліцыянер асобнага дывізіёна міліцыі па ахове будынкаў савецкіх партыйных органаў пры МУС Літоўскай ССР. Праўда, пасля вядомых падзей двухгадовай даўнасці ў Вільнюсе Аляшкевічу было адмоўлена ў далейшай службе, і ён паспешліва вымушаны быў шукаць шчасця на радзіме. Месца ўчастковага інспектара ў калгасе «Расія», што па суседству з калгасам імя Неўскага, аказалася зусім прыдатным, але, як паказаў час, не самым шчаслівым. Каб ведаў Аляшкевіч, які сюрпрыз яму рыхтуе радзіма, напэўна, шукаў бы іншыя варыянты ўладкавання.**

**Ёсць у гэтай гісторыі і яшчэ адзін персанаж, роля якога зводзіцца да маўклівага назірання за «ўмелымі і рашучымі дзеяннямі» сваіх сяброў. Гэта былы сакратар гаркома камсамола, а зараз важак тых жа камсамольцаў Шчарбінскі Франц Францавіч, даўні таварыш Клакевіча. З уласцівай камсамольскім работнікам сціпласцю Шчарбінскі зусім не імкнуўся адыгрываць вядучую ролю ў гэтай небяспечнай справе, а таму атрымліваў сваю долю ў СКВ толькі за маўклівае адабрэнне ўсёй аферы ў цэлым. І хоць на адным з працэсаў ён і даказваў, што ведаць не ведаў пра злачынную сутнасць гэтай арганізацыі, тым не менш яго стабільны даход сведчыць пра іншае.**

Вышэйназваны трыумвірат пасля некалькіх бяссонных начэй палічыў пасіўнасцю сваё будзённае існаванне, калі літаральна пад бокам залатая жыла — шаша Мінск — Вільнюс. Трэба яе толькі крыху капнуць. Але там, дзе крыху, дык, значыць, і надоўга... А галоўным аргументам у прамове Касевіча было ківанне ў бок мытнікаў: маўляў, вунь як хлопцы круцяцца.

Першае «паляванне» адбылося ў ноч з 20 на 21 жніўня непадалёк ад вёскі Крэва. Недахвату ў кліентах, як і трэба было чакаць, не адчувалася. Велікагрузныя аўтамабілі на Прыбалтыку цягнуліся цугам і, мяркуючы па прычапных фургонах, не з адной тонай дабра. Заставалася толькі метадычна ўзмахваць палачкай.

Першая ж спыненая «звышурочнымі» работнікамі машына аказалася тым маленькім звяном у масіўным залатым ланцугу, які так захоплена апісваў сваім калегам Касевіч. На жаль, вось толькі прычапіцца было няма да чаго. І накладныя на каляровы метал у парадку, і пуцёўка з Мінска ў Астравец у норме, і вадзіцелі, як ні дзіўна, — ні ў адным воку. Ды людзі кажуць: як пачнеш справу, так яна і далей пойдзе. Вырашылі не адступаць ад народнай мудрасці нашы «чырвоныя фуражкі». Спачатку намякалі, што, маўляў, «пуця свабодна, але ж... тыры-пыры». Ды незгаворлівыя трапіліся вадзіцелі, усю ноч спрабавалі нешта даказваць. Паперы паказвалі... І толькі раніцай пад мудрым кіраўніцтвам «служак закона», каб пазбегнуць «лішніх непрыемнасцей», вымушаны былі згрузіць 1,5 тоны медзі ў бліжэйшым ляску. Вядома, доўга яна там не праваляласа. Спачатку перакачаваўшы ў хлеў да дзеда (які так ганарыўся ўнукам-міліцыянерам). А ўсяго праз 10 дзён быў знойдзены выгадны пакупнік у Літве, які выклаў за 1,5 тоны медзі паўтары тысячы долараў.

Апетыт прыходзіць у час яды, і таму думкі пра тое, каб «завязаць», ні ў каго не ўзнікала. Дарэчы, пацярпеў у гэтым эпізодзе брат Касевіча, які да гэтага без галаўнога болю працаваў на кантрольна-прапускным пункце ў Астравецкім раёне — галоўным фарпосце на шляху шматлікіх пастаўшчыкоў у Прыбалтыку нашага пакуль што даступнага каляровага металу. Маючы роднага брата на жыццёва важным аб'екце, проста грэх такое не скарыстаць. Канфіскаваныя 1,5 тоны медзі выплылі ў Літву менавіта дзякуючы намаганням Касевіча-2. А разам з тым падстаўлены сваяк падпісаў сабе прыгавор: у рэшце рэшт ён аказаўся звольненым з праваахоўных органаў, вырашаецца пытанне аб прыцягненні яго да адказнасці.

На жаль, на сённяшні дзень гэта толькі адзін, усебакова разгледжаны і даказаны эпізод. Усяго ж Касевіч, Аляшкевіч і Клакевіч прызналіся ў сямі ўдала праведзеных аперацыях. Дзве з іх у стадыі доказу. Справа ўскладняецца тым, што тройца атрымлівала хабар не толькі ад нашых вадзіцеляў, але і ад прыбалтаў — літоўцаў і латышоў. Улады ж Літвы і Латвіі чамусьці панаплявацельску ставяцца да гэтага факта і ніяк не спрыяюць пошуку і камандзіраванню ў Смаргонь на допыт тых вадзіцеляў, якія спыняліся Касевічам і К°. Акрамя таго, не робіцца ніякіх захадаў нават для таго, каб правесці штосьці падобнае на допыт на сваёй тэрыторыі — на што ўжо далі згоду пракурор Смаргонскага раёна Уладзімір Бутрым і следчы пракуратуры, які вядзе гэту справу, Сяргей Кавальчук. На запыты апошняга ў камісарыят паліцыі і асабіста пракурору Рыгі ніякага адказу не атрымана. З літоўцамі ў гэтым сэнсе справы абстаяць крыху лепш, але таксама пакідаюць жадаць большага. А ўсё гэта зусім не на карысць следству.

Бачачы бяссільнасць следчых органаў перад блізкім замежжам, трыумвірат спакойна можа зменшыць колькасць выплыўшых у іх памяці эпізодаў з сямі, скажам, да двух. Ускладняецца справа яшчэ і тым, што «экспрапрыятары» не клапаціліся запісваць хоць бы нумары машын, якія спынялі. Вядома, асабіста для іх патрэбы ў гэтым не было. А зараз — шукай ветру ў чыстым полі. Да таго ж, адыгрывае сваю негатыўную ролю прапісная ісціна: калі хабар усё ж давалі, значыць, быў грашок і з таго боку. Хто плаціць за чыстае сумленне?

А сумы, трэба сказаць, уражваюць. Як паведаміў следчы Сяргей Кавальчук, толькі з адной машыны ўдалося ўсімі праўдамі і няпраўдамі адхапіць паборы на суму 50 тысяч рублёў, 300 долараў ЗША і 800 нямецкіх марак.

Дарэчы, «ахоўнікі правапарадку» спынялі грузавыя вялікатанажныя аўтамабілі. А больш за ўсё цікавілі іх машыны з каляровым металам, асабліва з нікелем і меддзю. Звар'яцелая на каляровых металах Прыбалтыка давала ім выдатны шанц папоўніць свае кашалькі. Вельмі хутка, дарэчы, экспрапрыіраваныя грошыкі пайшлі ў ход. Ужо 5 верасня Касевіч за валюту купляе новенькую «Волгу» (нагадаю, што першае паляванне на вялікай дарозе адбылося 20 жніўня). Праз тыдзень, г. зн. 12 верасня, таксама за валюту абзавёўся «Жыгулямі» Клакевіч. Напэўна, не прыйшлося б доўга чакаць такога падарунку і Аляшкевічу, каб не заўчаснае фіяска іх каварнага праекта.

Папаліся, як кажуць, на ўласнай дурнаце. Калі першыя разы выязджалі на справу на службовым аўтамабілі Клакевіча, дык з набыццём Касевічам «Волгі» вырашылі пашыкаваць на ёй. За што і папаліся.

Спыненне чарговага грузавіка 10 верасня прайшло хутка і без залішніх эксцэсаў — адным словам, прыбыткова. Паклаўшы колькі папрасілі, на лапу, вадзіцель працягваў шлях у напрамку да Літвы, а Касевіч і К° засталіся здымаць «пенкі» з наступных ахвяр. Праўда, на подступах да Ашмян вадзіцеля зноў прытармазілі, ужо мясцовыя міліцыянеры, і былі нямала здзіўлены рэчытатывам шафёра, які законна абураўся беларускай міліцыяй. Маўляў, літаральна толькі што правёў не самую прыемную гадзіну ў кампаніі нахабных служыцеляў закона, якія яшчэ і шыкуюць на незарэгістраванай «Волзе», а тут зноў... Настала чарга паціскаць плячамі ашмянскім міліцыянерам, бо яны добра ведалі, што ніякіх пастоў паблізу Крэва быць не павінна. Аднак не будзе ж шафёр гэтае выдумляць? У спешным парадку на месца мяркуемай «тусоўкі» выехала патрульная машына Ашмянскага ГАУС. Для каманды Касевіча гэта быў сапраўды непрыемны сюрпрыз. Пачалася паніка. На пытанні ашмянскіх калег адказвалі блытана і расплывiста. У рэшце рэшт прыйшлося завітаць да суседзяў. Аператыўная група, што вяла вобыск «Волгі», без асаблівых цяжкасцей знайшла схаваныя пад адным з сядзенняў 7 тысяч рублёў. Яшчэ 5 тысяч абцяжарвалі партманет Касевіча. І тым не менш дазволу на арышт толькі з-за гэтага даць ніхто не мог. Адразу пра інцыдэнт было паведамлена ў праваахоўныя органы Смаргоні. За тройцай пачалі сачыць. Падазрэнні пацвердзіліся: Касевіч, Аляшкевіч і Клакевіч займаюцца вымагальніцтвам і хабарніцтвам.

17 верасня былі затрыманы нічога не падазраваўшыя Клакевіч і Аляшкевіч, а 18-га ў Мінску — Касевіч, які яшчэ ўмудраўся завочна вучыцца ў Акадэміі міліцыі. Так пастаўлены кропкі над «і».

Падчас вобыскаў на кватэрах затрыманых знойдзены вялікія сумы як у рублях, так і ў СКВ. Што і казаць, амаль месяц жылі хлопцы на шырокую нагу.

Допыты затрыманых пачаліся літаральна на другі дзень. Як і трэба было чакаць, Касевіч спачатку ад усяго адмаўляўся, ні ў чым вінаватым сябе не прызнаваў. Але аднойчы ўсё ж прагаварыўся, цынічна заявіўшы: «...з мафіяй нічога не станецца, калі яна «кавалак» адваліць...» Што датычыцца Аляшкевіча і Клакевіча, дык яны адразу і прызналіся, і раскаяліся. Невядома толькі, ці пойдзе на карысць гэта запозненае раскаянне.

Следства працягваецца. Прыгавор суда яшчэ наперадзе, але трэба чакаць, што ён будзе суровым. Дастаткова сказаць, што артыкулам 169, частка 2 «Атрыманне хабару» Крымінальнага кодэкса РБ (па якому прыцягнуты да адказнасці нашы «героі») прадугледжваецца тэрмін ад 5 да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці, а за хабар у асабліва вялікіх памерах — вышэйшая мера пакарання.

Зараз інтэнсіўна вядзецца пошук сведак, у чым вялікую аператыўную дапамогу следчым аказваюць работнікі мясцовага КДБ. Пакуль што рабіць нейкія вывады рана, але ясна адно: хлопцы «ўліплі» капітальна. Хоць гэта і ўрок іх магчымым паслядоўнікам, але вельмі хочацца, каб такіх самадзейных «настаўнікаў» было менш. Выйгрышных сітуацый тут не бывае.

**Ігар КАРНЕЙ.**

